# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 38 (1688) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 18 ВЕРАСНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.

## ГДАНЬСКІЯ „ЖАВАРАНКІ"

У больш як дваццацігадовай гісторыі гуртка Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Гданьску не адзін раз узнікалі і дзейнічалі мастацкія калектывы. Асабліва плённую дзейнасць праяўлялі вакальныя формы. Песня сваёй чароўнасцю прыцягвае і яднае людзей. У клубе не адбылося ніводнага важнейшага мерапрыемства, калі б не паспявалі „па-свойму", калі б не было песень дзяцінства, песень роднага краю. На пачатку спявалі пад акампанемент баяна, потым акардэона, без кваліфікаваных музычных кіраўнікоў, проста самі. Вельмі прыемна цяпер успамінаць салаўіны галасок Зінкі Сахарчук, тагачаснай студэнткі, а цяпер настаўніцы Гайнаўскага ліцэя, З. Такаюк, Іры Мельнікавай, Олі Зданоўскай, далікатны, але звонкі тэнар Янкі Гарустовіча, Мікалая Савіцкага, барытон Валодзі Паўлоўскага, Мікалая Іванюка,

(Працяг на стар. 4)




**У калектыве спяваюць: (злева) Зіна Краеўская, Іра Гаданчук, Аня Гаданчук, Марыя Палюховіч, Рая Марусінская і Анна Іванюк.**

## ВЫРАШЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПЫТАННЯ Ў БЕЛАРУСІ: РЭВАЛЮЦЫЯ І КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯ

**(Пачатак у папярэднім нумары)**

**(Заканчэнне)**

**М. СТАШКЕВІЧ.** Так, я згодзен, беларуская інтэлігенцыя, асабліва звязаная з працоўным народам, адразу і хутка ўспрыняла ідэі Савецкай улады. Складана пераадольвалі цяжар мінулага былыя дзеячы рады БНР, лідэры розных дробнабуржуазных партый і арганізацый. У свядомасці асобных з іх яшчэ захаваліся, сапраўды, некаторыя антырускія настроі. У 1924 годзе, за два гады да вяртання ў БССР, у адкрытым пісьме ў рэдакцыю газеты „Эхо" В. Ластоўскі, напрыклад, пісаў, што ў аснове беларускага нацыянальнага адраджэння разам з гістарычнай традыцыяй і этнаграфічнымі прыметамі ляжыць і расавы элемент. Расавы элемент ён так разумеў: „...беларусы (крывічы) і рускія — дзве розныя расы. Даныя антрапалогіі сведчаць, што мы, беларусы (крывічы) адносімся да арыйскага тыпу, а рускія, ці ўласна вялікарусы, з'яўляюцца аславяніўшыміся (па мове) манголамі". І далей В. Ластоўскі піша: „Такім чынам, беларускі рух па сутнасці з'яўляецца не проста сепаратысцкім ад Расіі, а рухам нацыянальна-расавым, і ў гэтых адносінах ён падобны з рухам ірландскім". Гэты дакумент захоўваецца ў ЦДАМЛіМ БССР. Вось вам пазіцыя былога старшыні Савета Міністраў БНР, які да пачатку 1924 года пакінуў палітычную дзейнасць. Трэба дадаць: за гэтыя погляды ў 1924 годзе ён быў выключаны з партыі беларускіх эсэраў. З падазрэннем да яго адносіліся беларускія эсэры і за тое, што ён рабіў тэрытарыяльныя ўступкі літоўскай буржуазіі. У прыватнасці, ён пагаджаўся ўключыць значную частку Гродзенскай губерні ў састаў буржуазнай Літвы.

**А. МАЛАШКА.** Па гэтаму пытанню можна прывесці і іншыя факты. У Празе, у эміграцыі вясной 1921 года адбылася канферэнцыя ўсіх беларускіх партый і арганізацый. Ёсць яе стэнаграма. Па дакументах паступае ацэнка „слуцкага паўстання", відаць роля польскага генеральнага штаба ў гэтай акцыі і г.д. Аднак тут характэрная дэталь. Лозунг Пражскай канферэнцыі быў такім: „Не з бальшавікамі, не з палякамі, не з панамі, і не з камісарамі, а з беларускім народам". На гэтай аснове ішла кансалідацыя ўсіх эміграцкіх беларускіх сіл. „Не з камісарамі, не з панамі, а з беларускім народам" — вось такая палітыка была ў беларускіх нацыяналістычных фарміраванняў — яўна антысавецкая, антыруская.

**А. МІХАЛЬЧАНКА, нам. начальніка Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР.** Паўтара года назад мы атрымалі 21 справу па БНР, якіх пакуль што не бачылі нашы даследчыкі. Дарэчы, у рэспубліцы на сённяшні дзень зняты абмежаванні па допуску з 72 працэнтаў спраў, раней малавывучаных. Работа гэта працягваецца.

Але хачу падкрэсліць: у нас слаба вывучана нават тое, што адкрыта. Гэтымі днямі наш архівіст, дырэктар Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва (ЦДАМЛіМ) БССР Ганна Іванаўна Сурмач вярнулася з Масквы, дзе ў ЦДАМЛіМ СССР выявіла яшчэ восем раней невядомых спраў па Беларускай Народнай Рэспубліцы. З'явіліся новыя звесткі аб дзейнасці Ластоўскага і іншых дзеячоў БНР.

Сярод нявывучаных спецыялістамі дакументаў — справа аб консульстве БНР у Канстанцінопалі. У мемарандуме ад 14 лютага 1921 года сказана: БНР у розны час прызнавалі Эстонія, Латвія, Грузія, Фінляндыя, Літва, Украінская цэнтральная рада, Польшча. Бээнэраўцы падтрымлівалі сувязі з Дзянікіным, Махно...

Вам, гісторыкам, меркаваць: было гэта фармальна або нефармальна, адпавядае ісціне або не. Не ўведзены ў навуковы абарот дакументы, у якіх упамінаецца канстытуцыя БНР. Ёсць бланкі пашпартаў, тэкст закона аб грамадзянстве і г.д. Захавалася цэлая папка скаргаў сялян, якія ў перыяд нямецкай акупацыі звярталіся ў народны сакратарыят БНР з просьбамі вярнуць іх скаргі аб рэквізіцыях, праводзімых акупантамі-немцамі з 10-й арміі. Дарэчы, 10-я армія мела сваю газету, дзе публікаваліся матэрыялы БНР.

*Рэпліка.* Як быць з дакументамі, якія знаходзяцца за мяжой?

**А. МІХАЛЬЧАНКА.** Мы працуем праз Беларускі фонд культуры. У нас ёсць праграма „Вяртанне". Міжнароднае права дазваляе, як правіла, адно — атрымаць копіі за грошы. Валюты ў архівістаў няма. Дзякуючы Беларускаму фонду культуры,

**(Працяг на стар. 6)**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ФІЛЬМАВАЯ БЕЛАВЕЖА

Прыгажосць Белавежскай пушчы цэняць не толькі адны турысты і экскурсанты. Не менш любяць яе кінематаграфісты. Няма года, каб у Белавежы не пабывала здымачная група. Рэалізуюцца тут не толькі дакументальныя і асветныя фільмы. Пушча ўдзяляе свае пленеры таксама мастацкім фільмам.

У бягучым годзе першым, які „прапісаўся“ ў Белавежы, быў Ян Баке з ГДР, вядомы ў сваёй дзяржаве рэалізатар прыродазнаўчых фільмаў. Прыехаў ён сюды з намерам зняць навукова-папулярны фільм п.з. „Апошняя пушча ў Еўропе“. Здымкі рабіліся ў канцы мая, але рэжысёр яшчэ прыедзе восенню і зімою, каб паказаць пушчу ў розныя поры года.

У пачатку жніўня візіт у Белавежскай пушчы склалі кінематаграфісты з ЗША — Хрыстофер Валентайн і Малгажата Кучкоўская. Яны — прадстаўнікі адной з найвялікшых у Амерыцы фабрык відэазапісаў, што дзейнічае ў Каліфорніі. Амерыканцы здымалі запаведнікі прыроды і зуброў, а таксама экспазіцыю ў Прыродазнаўчым музеі. Зусім выпадкова ўвекавечылі яны на плёнцы, як адна з белавежскіх жанчын доіць карову. Гаварылі, што гэта амерыканскаму глядачу будзе вельмі цікава. Здымкі, рэалізаваныя ў Белавежы, увойдуць у фільм аб сучаснай Польшчы, яе помніках старадаўнасці і краявідах на першым плане.

Праз тыдзень пасля выезду амерыканскіх кінематаграфістаў у Белавежу завіталі сужонства Бажэна і Ян Валенцікі з польскага тэлебачання. Яны пачалі здымаць тут два фільмы — „Зялёныя лёгкія Польшчы“ і „Зубр“. Здымкі працягнуцца да канца года.

Ці яшчэ хтосьці ў 1988 г. прыедзе здымаць пушчу? Пакуль што невядома, але ўсё магчыма. Пушча вельмі прыгожая і восенню.

Трэба яшчэ дабавіць, што ў бягучым годзе польскае тэлебачанне паказала аж тры фільмы, якія здымаліся ў Белавежы. 2 ліпеня дэманстраваўся фільм „Д'яблы“, рэалізаваны Анджэем Вайдам паводле аднайменнага рамана Ф. Дастаеўскага. Здымкі ў Белавежы А. Вайда рэалізаваў нядоўга — толькі два дні, у палове красавіка 1987 г. Яны выконваліся на чыгуначнай таварнай станцыі і ў пасёлку Грудкі. 23 ліпеня тэлебачанне прадэманстравала ў сваю чаргу фільм, поўнасцю рэалізаваны ў Белавежы ў чэрвені 1986 г. Яго загаловак — „Уцёкі Караля“. Ён уваходзіў у тэлевізійную, шматсерыйную французскую серыю „Акцыя О.П.Э.Н.“. Фільм рэжысіраваў Жан П'ер Дэкур. А 16 жніўня дэманстраваўся дакументальны фільм „Кароль пушчы — зубр“, зняты ў пушчы ў гадах 1981-82 Барбарай Бартман-Чэчавай і яе мужам — Янам Чэчам.

**Пятро Байко**

Фота Войцеха Рынажэўскага



**Акцёры і статысты (дзеці) на белавежскай чыгуначнай станцыі ў час здымкаў да фільма „Д'яблы“.**

# НЕЗВЫЧАЙНЫ ПЕНСІЯНЕР

У адным з ліпеньскіх нумараў „Нівы“ заўважыў я артыкул інж. Барыслава Рудкоўскіна „Гацькі і наваколле“ пра тапаграфічныя назвы. Ён таксама выканаў карту і малюнкі. Хопіць паглядзець толькі гэтую публікацыю, каб ацаніць каштоўнасць працы немаладога ўжо чалавека.

Інж. Барыслаў Рудкоўскін з Бельска-Падляшскага ўжо на пенсіі, але не сядзіць склаўшы рукі. Па прафесіі ён інжынер-тапограф, па прызванню — любіцель роднай зямлі, даследчык яе гісторыі. Скалясіў ён роверам амаль усю Бельшчыну. У час гэтых падарожжаў запісвае тапаграфічныя беларускія назвы, наносіць іх на карты, апісвае помнікі нашага мінулага, клапоціцца пра іх захаванне. Неабыякавыя яго адносіны і да прыроды. Вядомы ён таксама як яе ахоўнік і ў гэтай галіне мае неблагія дасягненні. Нядаўна наведаў я інж. Б. Рудкоўскіна і запытаўся ў яго:

— У Вас вельмі багаты архіў, захоўваецца многа каштоўнай дакументацыі. Каму гэта думаеце перадаць?

— Пакіну я свой здабытак патомкам як доказ нашага спрадвечнага бытавання на гэтай зямлі. Назвы вёсак, палёў, лугоў, лясоў, урочышч, рэк сведчаць аб гэтым і трэба дбаць, каб ніхто іх не змяняў, каб не заціраліся нашыя вытокі.

**В. Семянюк**

---

А. Луцкевіч (бацька Юрыя і Лявона) — выдатны дзеяч беларускага народа. Маўляў, Сташкевіча трэба ганьбаваць, калі ён не разумее, хто такія Лёсік і Ластоўскі. Скажу так: я не горш за Казберука разумею, што такое сталінізм, — збіраў гнілую бульбу пасля вайны, каб не памерці з голаду. Я выйшаў з сялянства, якое больш за ўсіх пацярпела ад сталінізму. Як і раней, так і цяпер я прытрымліваюся адной думкі: на каго б ні былі накіраваны рэпрэсіі 1937 года — яны былі незаконнымі, а таму — злачыннымі. Але гэта ўжо іншае пытанне.

**І. КОЎКЕЛЬ, загадчык кафедры грамадскіх навук Гродзенскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў, кандыдат гістарычных навук.** Выкажу сваю думку, паколькі я займаўся гэтым пытаннем і напісаў па ім дысертацыю.

Неабходна канкрэтна і больш дакладна выказацца па пытанню, ці была БНР дзяржаўным утварэннем, ці карысталася яна падтрымкай народных мас? Думаю, маюць рацыю Вадзім Андрэевіч (Круталевіч — рэд.) і Мікалай Сцяфанавіч (Сташкевіч — рэд.), якія лічаць, што БНР дзяржавай не з'яўлялася. Тым больш, калі „ўрад“ БНР знаходзіўся ў эміграцыі. Калі гаварыць пра ўплыў, падтрымку і аўтарытэт у народных масах, то тут павінна быць адзіная думка.

Сялянства ў першую чаргу не падтрымала БНР. Але мы, разглядаючы пытанне аб уплыве яе на народныя масы, зусім не гаворым, чаму яна не карысталася аўтарытэтам. Рабочыя і сяляне ведалі, што той, хто супрацоўнічае з акупантамі, — супраць народа, а многія прадстаўнікі БНР якраз і супрацоўнічалі з захопнікамі. Неабходна, відаць, улічваць і тую агітацыйна-масавую работу, якую праводзілі бальшавікі. Да таго ж, у час нямецкай акупацыі на тэрыторыі Беларусі быў даволі шырокі партызанскі рух, які таксама не садзейнічаў актывізацыі ўплываў БНР.

Калі мы гаворым пра некаторых беларускіх дзеячаў, неабходна больш дакладна прытрымлівацца класавага, партыйнага падыходу, чаго, на жаль, многім вучоным не хапае і ў Мінску, і ў Гродна. Некаторыя цяпер нават імкнуцца перагледзець класіку беларускай літаратуры, да класікаў маюць намер аднесці і Ларысу Геніюш. Тую самую Геніюш, якая пасылала тэлеграму ўдзячнасці Гітлеру за вызваленне Беларусі ад узурпатараў-бальшавікоў! Так можна дагаварыцца немаведама да чаго.

**А. ХАЦКЕВІЧ, загадчык кафедры гісторыі КПСС БПІ, доктар гістарычных навук, прафесар.** Згодзен з тымі, хто лічыць нацыянальнае пытанне складаным і драматычным. Тут трэба сказаць аб нацыяналізме (вялікадзяржаўным і мясцовым). У навуковай літаратуры гэта пытанне распрацавана нядрэнна. Але незалежна ад культу асобы Сталіна, валюнтарызму Хрушчова, застойнага перыяду Брэжнева-Чарненкі, на мой погляд, у некаторых гісторыкаў і літаратараў ёсць неразуменне ленінскага тлумачэння нацыяналізму нацыі прыгнятаючай і нацыі прыгнечанай. Хтосьці думае, што Ленін падтрымліваў нацыяналізм нацыі прыгнечанай. Гэта глыбокая памылка. Ніякага нацыяналізму ён не падтрымліваў, а падтрымліваў агульнадэмакратычны змест, які ёсць у нацыяналізме нацыі прыгнечанай, але не нацыяналізм як такі.

У беларускай гісторыяграфіі пытанне агульнадэмакратычнага зместу мясцовага буржуазнага нацыяналізму і яго дзеячаў раскрыта дрэнна. Пры больш глыбокім і грунтоўным яго вывучэнні на канкрэтным мясцовым матэрыяле больш выразна вызначацца прычыны памылак і ваганняў асобных прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Неабходна строга адрозніваць нацыяналістычнае ад нацыянальнага.

БНР — ілюзорнае, вярхушачнае палітычнае фарміраванне. Для дзяржавы трэба, каб былі, гаварыў Ленін, тэрыторыя, граніцы, палітычная ўлада. Нічога падобнага ў БНР не было. А. Залескі сказаў, што ў яе была прэтэнзія на дзяржаўнасць. Але амбіцыі і прэтэнзіі — адно, а рэальныя факты — зусім іншае.

Ластоўскі і іншыя арганізатары БНР — палітычныя ілюзіяністы. Яны самі сышлі з палітычнай арэны, прызналі сваю бездапаможнасць у барацьбе за беларускую буржуазную рэспубліку, аб чым добра напісаў Сташкевіч у кнізе „Прыгавор рэвалюцыі“.

Я падзяляю пункт гледжання А. Залескага ў тым, што ні адзін з беларускіх нацыяналістаў не заслугоўваў рэпрэсій, прыцягнення да суда за крымінальныя злачынствы, якіх яны не ўчынялі, у тым ліку і пляменнік (па лініі маці) Я. Коласа Язэп Лёсік. Магчыма, і персанальную справу Ігнатоўскага, які пакончыў жыццё самагубствам пасля выключэння яго з партыі, трэба перагледзець, яшчэ раз вывучыць усе дакументы, звязаныя з гэтай справай.

*

Падводзячы вынікі работы „круглага стала“, Э. Загарульскі адзначыў: гісторыкі падвяргаюцца масіраванаму націску з боку друку, грамадскасці. І справядліва. Праведзеная дыскусія дапамагла нам знайсці правільныя падыходы да некаторых важных пытанняў нашай гісторыі. Мне здаецца, вялікіх супярэчнасцей сярод прысутных не было. Былі, праўда, некаторыя адценні ў ацэнцы БНР, але ў цэлым характар яе вызначан правільна і адназначна. Справядліва таксама адзначалася, што мы павінны ўлічваць не толькі сітуацыю тых гадоў, але і сучаснае наша разуменне гістарычнага працэсу, сучасныя задачы гісторыі. Трэба прытрымлівацца класавых ацэнак гістарычных з'яў. Разам з тым, **мы павінны адмовіцца ад заганнай практыкі навешвання ярлыкоў дзеячам мінулага і вярнуць гісторыі імёны тых, хто сумленна служыў свайму народу, унёс свой уклад у станаўленне і развіццё нашай дзяржаўнасці, навукі і культуры.**

Матэрыялы „круглага стала“ да друку падрыхтаваў

**Ул. Андрыевіч.**

*„Звязда“ № 174 (20802) ад 29 ліпеня 1988 г.*

# Зорка

## Старонка для дзяцей



Вельмі любяць беларускую мову вучні трэцяга і чацвертага класа з Кляшчэляў. Яны развучваюць беларускія песні, вершы, танцуюць беларускія танцы. Фота Я. Чэрнякевіч.

Алена Мімрык
Дзіяна Энціна




Працяг. (9)

Дзеці падсілкаваліся. Воля і Фернанда засталіся дарабляць насілкі, а астатнія пайшлі збіраць арахіс.

І вось насілкі гатовы. Фернанда паклікаў Габрыэля, і яны падышлі да ямы, дзе ляжала бішка.

Фернанда намачыў анучу, апусціўся на калені і ласкава пагладзіў антылопу па галаве. Потым працягнуў да губ жывёлінкі мокрую анучу. Вада капала на пысу. Бішка дробненька дрыжала, спалохана паводзіла вушамі, але паступова супакоілася, абхапіла губамі вільготную анучу і пачала смактаць.

— Няма чаго марудзіць, давайце хутчэй падымаць бедную Люську, — Воля нечакана прыдумала бішцы імя.

Фернанда працягнуў жывёлінцы кавалачак маніёку. Бішка адразу ж з'ела яго. Тады хлопчык паспрабаваў прасунуць руку пад грудзі антылопы. Яна спачатку задрыжала, спалохалася, пачала вырывацца, але Фернанда хуценька выцягнуў руку і пачаў ласкава чухаць Люську за вушамі, гладзіць па пераносcі.

Бішка супакоілася. Фернанда зноў асцярожна прасунуў руку пад грудзі, апусціўся на адно калена, а другой рукою перахапіў жывот і спіну антылопы. Трошкі пасядзеў спакойна і пачаў ціха размаўляць з жывёлінай:

— Як жа ты гэта неасцярожна скокнула? І дзе ты згубіла сваю маму? Ну, нічога, мы вылечым цябе, паставім на ногі.

Хлопчык памалу падцягнуў антылопу да сябе. І вось яна ўжо ў яго руках. Бішка была невялікая, не большая за баранчыка ці казляня.

Калі Фернанда падняўся з калена, антылопа больш не вырывалася, толькі паводзіла вушкамі. Яны прасвечваліся на сонцы і скрозь рэдкую белую поўсць здаваліся светла-ружовымі.

Хлопчык трымаў антылопу на руках. Яна пазірала на дзяцей, а тыя з затоеным дыханнем сачылі за ёю.

— Цяпер давайце насілкі! — папрасіў Фернанда.

Воля і Габрыэль расправілі цыноўку. Фернанда паклаў Люську на бок, і яны панеслі яе да будана.

Гарачыня спадала і дзеці працавалі спарней. Крыху стаміліся, але не здаваліся. Калі сонца было зусім нізка, работа была скончана. А неўзабаве з-за дрэў вынырнуў аўтобус і спыніўся на скраі поля. З акенца выглянуў шафёр і ветліва памахаў дзецям.

Фернанда першы падбег да яго і пачаў расказваць пра здарэнне з бішкаю. Спачатку шафёр развёў рукамі, не ведаючы, што рабіць, потым заўсміхаўся, паклікаў на дапамогу некалькі пасажыраў. Яны хутка прынеслі антылопу да аўтобуса.

Калі дзеці размясціліся, шафёр перадаў на рукі Фернанда і Габрыэля бішку. Побач села Воля.

— Не бойся, Люська, мы табе нічога кепскага не зробім, — супакойвала яе дзяўчынка.

* * *

Мінула тры дні, як Люська жыла ў Волі. У бішкі былі паламаны абедзве нагі, і Валерый Васільевіч разам з Тамба-Тамба і Фернанда зрабілі для яе спецыяльную падстаўку на колцах. У сем'ях некаторых кангалезцаў ёсць такія прыстасаванні для дзяцей, якія толькі пачынаюць хадзіць. Бішку паклалі на гэтую падстаўку, перабінтавалі зламаныя ногі, і яна магла рухацца, не ступаючы на іх, а толькі перабіраючы імі.

Люська адразу ж прызнала галоўнымі Волю і яе маму і заўсёды была побач з імі. Яна нікуды не лезла, была акуратная, і прыбіраць за ёю асабліва не трэба было. Неўзабаве Люська пачала адгуквацца на сваё імя: хто пакліча, яна, хуценька перабіраючы ножкамі, прыкочвала да яго. Навучылася піць з соскі. Воля разводзіла сухое малако і паіла. Люська і спала на сваіх колцах, прытуліўшыся да Волінага драўлянага ложка.

Праз колькі часу антылопа ўжо ела гародніну, піла суп проста з міскі, але самым любімым ласункам для яе стала абабраная цыбуліна.

— Люська, хадзі сюды, з'еш цыбулінку! — клікала яе дзяўчынка, і бішка кацілася на яе голас.

Пра тое, што Люська любіць цыбулю, хутка даведаліся вучні, і, прыйшоўшы праведаць яе,

(Працяг на стар. 10)

Станіслаў Шушкевіч

### ЛЯСНАЯ ВЕЧАРЫНКА

У лясным прасторным клубе
Біў барсук заўзята ў бубен,
Сеў бабёр на падаконнік,
Разгарнуў стары гармонік,
Так зайграў, што нават ногі
Не краналіся падлогі
І круціліся ў паветры,
Нібы лёталі на ветры.

А лісіца, крываножка,
У модных шоўкавых панчошках,
Туфлях на абцасах тонкіх,
Спрытна танцавала полькі.

Ды прыйшоў у клуб мядзведзь,
Адпачыць і пасядзець.
Глянуў скоса на паркет
І закашляў, нібы дзед:
— Гэта што за непарадкі?
Роўным быў паркет і гладкім,
А цяпер у ямках-дзірках...
І мядзведзь ажно зафыркаў:
— Гэта ж нашы медзвядзяткі
Маюць мякенькія лапкі.
А вось модніца-лісіца
Пачала скакаць-гайсаць.
Нібы шылам пакалола
Тут паркет увесь наўкола.
— На мяне, ліса, не злуйся.
Сядзь на покуце, разуйся
І танцуй аж да ўпаду! —
Даў мядзведзь лісе параду.

Ліса з сораму гарэла:
— Ну, якое ж яму дзела
Да падлогі ў нашым клубе?
Аж глушыў танцораў бубен.
Прычасала ліса чуб
І шапнула: — Дзед наш — дуб...
Ён сапраўдны цямця-лямця,
Разбіраецца у лапцях,
А ўжо ў туфлях ні-ні-ні...
Вось такога і крані.

Ліса з клуба дала драла,
Непрыемнасцей чакала.
Дома адшукала тапкі
На змазоленыя лапкі.
Шкадавала, уздыхала,
Малавата танцавала...

У лясным прасторным клубе
Аж да ранку чуць быў бубен,
Грае весела гармонік,
Плешчуць зайцы у далоні.



Марта Вераль з Беластока — удзельніца конкурсу беларускай песні. Фота Я. Чэрнякевіч.

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

ЗАДУМЕННА

## СВЯТЛО ТВАІХ ВАЧЭЙ

*Словы І. Скурко* — *Музыка У. Буднiка*

*Прасіў цябе на развітанне, —*
*Пішы, каб шлях закрыць журбе.*
*І пішам мы, як сумна стане,*
*Ты — да мяне, я — да цябе.*
*Жаданы воблік не растане,*
*Хоць колькі часу не міне, —*
*Мы будзем думаць у расстанні —*
*Я — пра цябе, ты — пра мяне.*
*Я — пра цябе, ты — пра мяне.*
*Мы не забудзем той хвіліны,*
*Калі сказалі мы сабе:*
*Адна, адзіная... адзіны*
*Ты у мяне, я у цябе.*
*Святло тваіх вачэй мне свеціць, —*
*Яно — другое сонца мне!*
*І мы жывём з табой на свеце,*
*Я — для цябе, ты — для мяне.*
*Я — для цябе, ты — для мяне.*

## БУДЗЬ ЗДАРОЎ

Дзед і баба пасварыліся паміж сабою і перасталі адзін да другога гаварыць. Але баба не магла вытрымаць дык яна і пытае:

— Стары, ці ты ўчора чхнуў?

— А што? — панура адказаў ён.

— Будзь здароў! — ласкава сказала баба.

— Дзякую.

Гэтак і пагадзіліся.

# НІЎКА

— Першая вам парада — кідайце курыць!

**Між намі**

**Пустая галава! Што можа быць цяжэй?**

*

**Людзей слухай — а свой розум мей.**

РЭСТАРАН • RESTAURANT

Прызнанне ў каханні.

## АДЛУПЦАВАЛА

Аднойчы жонка Мікіту адлупцавала. Мікіта ўлез на стол і плача. Прыходзіць сусед і пытае:

— Чаго ж ты там сядзіш?

А Мікіта на тое:

— У сваёй хаце гаспадар. Дзе хачу там і сяджу.

# Як у трох соснах

**—Алесь Андрэевіч, гэта ж проста любата, што вы ёсць на свеце. І з намі, і ў нашым калектыве. Хоць ёсць да каго зайсці, душу ёсць з кім адвесці.**

**— Але ж...**

**— Сядзіце, сядзіце, я сам падыду, паціcну вашу працоўную руку. Сядзіце, сядзіце, не ўставайце. Падумаеш, там нейкі фанфарон зайшоў, што перад ім уставаць трэба. Не-не — не ўставайце. Я не магу сабе дазволіць, каб такі чалавек, як вы, ды з-за мяне яшчэ турбаваліся.**

**— Але ж...**

**— Ніякіх „але ж". Вы ведаеце, як у калектыве вас любяць! Бацька наш родны, кажуць. Маліцца на вас гатовы. Як на тую ікону.**

**— Але ж...**

**— Вось бачыце, нават і зараз вы нешта хочаце сказаць, я вас перабіваю, а вы на мяне не злуецеся за гэта. Бачыце, які вы добры?**

**— Але ж я хацеў вам сказаць, што мяне толькі што знялі з працы...**

**— Што вы кажаце?! Няўжо? Як гэта, адразу ўзялі і знялі? Ніколі б не падумаў. Але, мусіць, там, наверсе, відней. Разгледзелі, мусіць, усё добра, усё ўбачылі.**

**— Дык...**

**— Што — „дык"! Вось табе і „дык", вось табе і індык. Дасядзеўся, нарэшце, галубок. Хоць трохі, можа, зараз тваю пыху саб'юць. А то ён, бачыце, сядзіць за сталом і нават не падымецца, каб з чалавекам павітацца. Баіцца седаўку цяжкую ад крэсла адарваць. А ты да яго ідзі. Як да буды якога. Што, можа, яшчэ паўзці да цябе прыкажаш? На каленях? Га? Вось так во. Можа ручкі табе цалаваць? Можа, хочаш, каб кланяліся табе? Нізка-нізка — да самай падлогі. Да самых тваіх чаравікаў.**

**— Дык...**

**— Не, „дык", а лапату. Самую звычайную. Тую, якой зямельку капаюць. І будзеш ты, Дурань Дурневіч, зямельку капаць. Як я, як іншыя. З ямы — і ўверх, на гару, з ямы — і ўверх, на гару...**

**— Дык...**

**— Ну, ці бачылі вы яго! Папугай ды гэдзе. Як завёў сваё „дык", дык і спыніцца ніяк не можа.**

**— Дык я хацеў сказаць вам, што мяне перавялі на вышэйшую пасаду.**

**— Як гэта, на вышэйшую?.. А, на вышэйшую! Ну, вядома ж, на вышэйшую. Я ж і кажу, што такімі людзьмі, як вы, не раскідваюцца. Такіх людзей мала. На пальцах можна пералічыць — і разувацца не спатрэбіцца, адной рукі нават хопіць. Раз-два-тры — і ўсё.**

**— Толькі...**

**— Ды кіньце вы, Алесь Андрэевіч, сваё „толькі". Якая лапата? Пра што вы, дарагі наш Алесь Андрэевіч, гаворыце?! Хто гэта вам дазволіць такое? Гэта ж з нас бы і куры пачалі смяяцца, каб такі чалавек, як вы, ды з лапатаю... Не, і не прасіцеся — не дазволім.**

**— Толькі...**

**— Не-не-не — і не пярэчце нават. З лапатаю мы ўжо самі будзем. Мы не ведаем, яна нас. Чуеце, самі. А вы ўжо — за сталом. Вы ж зірніце, колькі ў вас клопатаў, колькі папер, а я, дурань, у вас такі дарагі час адбіраю.**

**— Я хачу сказаць, што мяне павысілі, але перавялі ў іншы горад. І ў іншую ўстанову.**

**— Што? У іншую ўстанову? І тая ўстанова не ў нашым горадзе? Дзіўна. Яго перавялі ў іншую ўстанову, а ён сядзіць тут, займае чужое месца і адно, як той дурань, чаўпе: „але", „дык", „толькі"... Што, ты гаварыць, попка, развучыўся, ці што? Столькі гадоў тут, гіцаль, тырчаў, а сам жа такі невук. Нават пагаманіць з ім, як з чалавекам, нельга. Тфу, ты д'ябал! Ну што ты яшчэ пнешся сказаць? Што „зараз"?**

**— Зараз я ўзначальваю новае ўпраўленне, якому падпарадкоўваецца наша... даруйце, ваша ўстанова.**

**— Алесь Андрэевіч, дарагі наш, родны наш! Дык... Дык... Дык...**

**— Аднак Алесь Андрэевіч, новы начальнік упраўлення, не спытаўся ў падначаленага, што той хацеў яму сказаць. Яму і так усё было зразумела.**

**Янка Сіпакоў**

**Вернасць сябра пазнаеш у двух выпадках: калі сам трапіш у бяду і калі ён стане начальнікам.**